Інфармацыйны бюлетэнь • № 3/99

# Каталіцкія НАВІНЫ



ВЫДАННЕ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА-КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА

## Створана Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі



11 лютага адбылося першае пасяджэнне новастворанай Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі (CECB) – вышэйшага прадстаўнічага органа Касцёла на Беларусі. Старшынёй Канферэнцыі абраны кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі і адміністратар Пінскай дыяцэзіі, сакратаром – біскуп Антоні Дзямянка. На першым пасяджэнні Канфэрэнцыі абмяркоўвалася агульная пастаральная сітуацыя Касцёла на Беларусі, а таксама створаны камісіі па асобных сферах дзейнасці Касцёла.

***На здымку:*** *біскуп А.Кашкевіч, кардынал К.Свёнтэк, Апостальскі нунцый арцыбіскуп Д.Грушоўскі, біскуп А.Дзямянка пасля першага пасяджэння Канферэнцыі.*

## У нумары:



***8 красавіка – 60-годдзе святарства Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка.***

***Рэдакцыя «Каталіцкіх навінаў» віншуе юбіляра і жадае яму доўгіх гадоў жыцця і плённай працы на карысць беларускага Касцёла.***

***Plurimos annos!***



# Пастырскі ліст

## з нагоды Кангрэсу Пакліканняў

I

Адбыўся першы этап Сіноду. Ён быў прысвечаны ЛЮДУ БОЖАМУ, да якога належаць усе вернікі, а значыць – свецкія, святары, законнікі, законніцы. І калі былі прыняты пастановы адносна паклікання і пасланніцтва свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце, а таксама сужэнства і сям'і, мы адзначылі 14 сакавіка мінулага года "*Урачысты Дзень Аднаўлення ў Хрысце сужэнстваў і сем'яў Беларусі*". Гэта ўрачыстасць, як памятаеце, спачатку адбылася ў Мінскай Архікатэдры, потым у дэканатах і парафіях усяго Касцёла на Беларусі.

Цяпер, калі праз сінадальныя працы мы ажывілі ў сабе тую праўду, што ідэал святарскага і кансэкраванага жыцця вельмі цесна звязаны са святасцю і місіяй Касцёла, а таксама, што складае яго неперадаваемы і фундаментальны элемент, **мы хочам правесці Кангрэс Паклікання**.

Ён мае свае стацыі ў наступных населеных пунктах: Бабруйску, Будславе, Браславе, Мінску, Нясвіжы, Полацку, Гомелі, Пінску. *Усяго 9 Стацый.*

Урачыстае адкрыццё Кангрэса распачнецца ў Пінску 8 красавіка 1999г. (чацвер), у месцы і ў дзень маіх святарскіх пасвячэнняў, а скончыцца ў Мінску 10 красавіка 1999г. (субота) у маёй мітрапалітальнай сталіцы.

Сардэчна запрашаю ўсіх вернікаў да ўдзелу ў Кангрэсе, найперш у сваёй Стацыі Кангрэсу, а, па магчымасці, у Пінску і Мінску.

Пры дапамозе Кангрэсу каталіцкі Касцёл на Беларусі публічна прыгадвае словы Пана Езуса: *"Жніво сапраўды багатае, ды работнікаў мала. Прасіце Пана жніва, каб выслаў работнікаў на жніво сваё"* (пар. Мц 9, 37-38), а таксама ён урачыста складае падзяку за 60 год маёй святарскай паслугі і за вернасць пакліканню ўсіх святароў, законнікаў і законніц – герояў веры мінулых гадоў прыгнёту і пераследванняў.

Кангрэс – гэта вялікая малітва да Бога Айца, Пана жніва. Ён таксама з'яўляецца своеасаблівай формаю ўшанавання Створцы неба і зямлі ў год, асаблівым чынам Яму прысвечаны напярэдадні ўрачыстасці 2000 Юбілею хрысціянства.

Уваходзячы ў XXI стагоддзе, мы разам з Святым Айцом Янам Паўлам II усведамляем патрэбу "Божых работнікаў" на гэтай зямлі, і моцна верым, што "Пан жніва" выслухае нашыя просьбы.

Папа напісаў нам: "*Шукаць ахвотнікаў, клапаціцца пра іх пакліканне, назіраць за іх адукацыйнай дарогаю – гэта абавязак, ад якога залежыць будучыня Касцёла. Абавязкова трэба рыхтаваць уласных святароў, каб паступова яны занялі месца тых, якія прыехалі з іншых краін, цалкам ахвяруючыся працы сярод вас*" (Ad limina apostolorum n. 4).

II

У кожным пакаленні нябесны Айцец заклікае шмат маладых людзей, каб наследавалі Яго Сына Хрыста праз святарскую паслугу, праз прафесію евангельскіх парадаў у інстытутах кансэкраванага жыцця: чыстасці, убоства і паслухмянасці. Пакліканне – гэта дар Божы, які задарма дадзены. Але гэты дар можа быць прыняты альбо не прыняты; зразуметы альбо не зразуметы як пакліканым, так і яго сям'ёю. Менавіта таму, маладому чалавеку патрэбна дапамога веруючага чалавека, які знаходзіцца ў сяброўстве з Богам.

**Таму звяртаюся з заклікам да вас: бацькі, выхавацелі, душпастыры,** – паказвайце маладым магчымасць самарэалізацыі таксама і на гэтай дарозе. Засявайце мудра і шчодра зерне любові да службы Божай, каб маладыя былі здольныя прыняць дар Божы, якім з'яўляецца пакліканне.

*Маліцеся*. Бо Езус Хрыстус заклікае: "Жніво сапраўды багатае, ды работнікаў мала. Прасіце Пана жніва, каб выслаў работнікаў на жніво сваё"(пар.Мц 9, 37-38).

*Маліцеся*. Бо ёсць шмат сэрцаў, якія чакаюць Евангелля, як у нашай краіне, так і на іншых кантынентах свету. Хрыстус праз муку і смерць на крыжы адкупіў усіх людзей. Гэтым людзям трэба абвяшчаць Добрую Навіну аб збаўленні, аб вызваленні з няволі шатана, з няволі граху.

**Звяртаюся да вас, маладыя сябры:** на заклік Хрыста "Ідзі за Мною" сёння многім маладым людзям няпроста адказаць Богу: Так, "гэта я, пашлі мяне" (Іс 6,8). Бо свет паказвае вам шмат ілюзорных прапаноў. Магутныя сродкі масавай інфармацыі маніпулююць вашай духоўнасцю. У слабых яны вызваляюць волю латвага жыцця, ганебныя жаданні, культ насілля. Тым часам рашэнне ісці за Хрыстом патрабуе адвагі, намаганняў, самаадрачэння. Але жыццё гэтае цудоўнае!

• Звяртаюся да вас у дзень майго юбілею 60-годдзя святарства:

Касцёл на Беларусі патрабуе святароў. Старэйшыя жыхары гэтай краіны ведаюць, што гэта значыць, калі няма святара ў людскім асяроддзі. Прыслухайцеся да іх аповядаў. Без святароў Касцёл не мог выканаць наказ Хрыста: "Ідзіце і навучайце ўсе народы" (Мц 28,19), а таксама выканаць Запавет Хрыста: "Гэта чыніце на маю па-

мяць" (Лк 22,19). Гэтыя словы мы чуем у кансэкрацыйнай малітве падчас кожнай Святой Імшы. Акрамя таго, без святароў няма споведзі, сакрамэнту намашчэння хворых.

• Звяртаюся да вас з глыбіні сэрца:

Касцёл патрабуе законніц і законнікаў. Бо яны праз сваё жыццё і апостальства з'яўляюцца для хрысціянаў знакам і напамінам аб вечных каштоўнасцях. Яны, наследуючы Хрыста, выціраюць слёзы смутным, лечаць раны хворым, суцяшаюць пакрыўджаных, апякуюцца людзьмі ў старасці, каб яна была ціхая, радасная і г.д. – уступайце ў іх законныя Сем'і.

**Звяртаюся да вас, парафіяльныя супольнасці:** будзьце адказнымі за пакліканні ў вашым асяроддзі. Нястомна распрацоўвайце і ажыццяўляйце перспектыўныя праграмы дзейнасці і даверцеся Божай ласцы. Духоўнае пакліканне – гэта вялікая Божая і людская справа. Вялікія справы патрабуюць часу і працы. Таму не чакайце імгненных вынікаў.

**III**

**Напрыканцы ўкленчваю разам з вамі і малюся словамі папы Яна Паўла II:**

*Святая Сям'я з Назарэту*, – супольнасць любові Езуса, Марыі і Юзэфа, узор і ідэал кожнай хрысціянскай сям'і, – табе даручаем нашыя сем'і.

Адкрывай сэрцы сямейных супольнасцяў для веры, для прыняцця слова Божага, для хрысціянскага сведчання, каб яны станавіліся крыніцаю новых і святых пакліканняў.

Асвячай розум бацькоў, каб яны, атуляючы сваіх дзяцей клапатліваю апекаю і мудраю любоўю, умелі беспамылкава іх весці да дабротаў духоўных і вечных.

Фарміруй у душах моладзі праведнае сумленне і вольную волю, каб, узрастаючы "у мудрасці, сталасці і ласцы", умелі велікадушна прыняць дар Божага паклікання.

Святая Сям'я з Назарэту, учыні, каб мы, кантэмплюючы і наследуючы Тваю нястомную малітву, велікадушную паслухмянасць, годна перажываную ўбоства і цноту чысціні, вучыліся выконваць Божую волю і чулай разважлівасцю ўспамагаць тых, хто пакліканы да больш радыкальнага наследавання Пана Езуса, які "за нас аддаў самаго сябе" (пар. Гал 2, 20). Амэн.

***Кардынал***
***Казімір СВЁНТЭК***

*Мінск-Пінск, 24 лютага 1999г.*

# 1999 год: рэкалекцыі для Касцёла ў Польшчы

У дэвізе папскай пілігрымкі, якая адбудзецца ў гэтым годзе, – «Бог ёсць любоў», – знаходзіцца адказ на найважнейшыя пытанні, якія паўстаюць перад сучаснай Польшчай, – лічыць біскуп Ян Храпэк, каардынатар Душпастырскага візіта Святога Айца Яна Паўла II у Польшчу 5-17 чэрвеня 1999г. У размове з карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва КАІ біскуп Храпэк звяртае ўвагу на тое, што ў апошні час у польскім грамадстве ўзніклі вельмі сур'ёзныя падзелы. Гэта – так званы эфект размарожанага халадзільніка: выйшлі навонкі і знянацку заспелі нас канфлікты і адрозненні, нібы замарожаныя ў часы таталітарызму. «Да гэтага трэба дадаць глыбокія раны, якія нанесла тая сістэма, незагоеныя да сённяшняга дня. Польская душа хворая», – сцвярджае біскуп. Ён мяркуе, што першай умовай аздараўлення мусіць быць добрасумленны разгляд мінулага. А зрабіць гэта магчыма толькі ў атмасферы таго паслання, якое знаходзіцца ў дэвізе пілігрымкі Папы, – «Бог ёсць любоў» – і ў духу блаславенняў. Працэс паяднання, – кажа кс.біскуп Ян Храпэк, – мусіць мець якасці разумнага рахунку сумлення, якому папярэднічае жаль за грахі і пастанова выправіцца. Такі рахунак сумлення вядзе да прабачэння. Прапануем вашай увазе фрагмент размовы.

***– Гэты візіт будзе ахопліваць поўнач, усход і поўдзень краіны. На памежжы будуць прысутнічаць шматлікія пілігрымы з суседніх дзяржаваў. Ці можна спадзявацца, што да іх будзе скіравана спецыяльнае пасланне?***

– Мы адкрытыя для пілігрымаў з суседніх краінаў. Зразумела, што іх прыезд у Польшчу – гэта справа мясцовых Касцёлаў і Канферэнцыя Епіскапату Польшчы не чыніць тут ніякага націску. Але Элцкая, Драгічынская, Седлецкая, Замойская і Кракаўская дыяцэзіі сапраўды зробяць усё, каб гасцінна прыняць пілігрымаў з-за мяжы. У часе Святой Імшы ў Элку Святы Айцец прамовіць да літоўцаў на іх роднай мове. Літургія ў Драгічыне будзе мець экуменічны характар. Мы прадбачым там удзел вялікай колькасці праваслаўных і, напэўна, Святы Айцец накіруе спецыяльнае прывітанне і для іх, бо працэс прымірэння Касцёлаў – адзін з найвялікшых клопатаў Яна Паўла II.

***– Кардынал Казімір Свёнтэк запрасіў Святога Айца на Беларусь. Ці будзе адказам на гэтае запрашэнне візіт Святога Айца ў Драгічын і сустрэча з вялікай колькасцю беларускіх пілігрымаў?***

– З упэўненасцю можна сказаць, што спатканне ў Драгічыне будзе ў нейкай форме адказам на чаканні вернікаў з гэтай краіны, асабліва католікаў лацінскага абраду. Адкрытасць для пілігрымаў з Усходу Святы Айцец таксама прадэманструе ў Седльцах і Замосці. Туды таксама прыбудуць пілігрымы з Украіны.

***KAI***

# Слова біскупаў Гродзенскай дыяцэзіі з нагоды 60-гадовага юбілею святарства **кардынала Казіміра Свёнтка**

Дарагія браты і сёстры ў Хрысце!

Час, у якім мы жывём, сапраўды пазначаны шматлікімі ласкамі Добрага Бога Айца. Мы рыхтуемся да Вялікага Юбілею хрысціянства. Ужо 2000 гадоў гісторыю чалавека і свету мы адлічваем ад нараджэння Хрыста Пана. Паўгода назад, падчас незабываемай пілігрымкі ў Рым, мы дзякавалі Богу за 20 гадоў пантыфікату Яна Паўла II.

Да гэтых адметных знакаў ласкі Божы Провід далучае яшчэ адзін юбілей – 60-годдзе святарства нашага ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка. З гэтай нагоды мы ўсе збіраемся на малітву ўдзячнасці разам з ксяндзом кардыналам. Дзякуем Найвышэйшаму Богу за дар святарства Пастыра, які як Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі і кіраўнік Канферэнцыі Епіскапату, а таксама як Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі, узначальвае наш Касцёл на беларускай зямлі і з'яўляецца знакам лучнасці са Сталіцаю Пятра.

Нашая ўдзячнасць тым большая, што ў асобе ксяндза кардынала, у гісторыі яго больш як паўвекавой святарскай службы, як у люстэрку, адлюстроўваецца гісторыя апошніх дзесяцігоддзяў нашага Касцёла.

Ксёндз кардынал нарадзіўся ў 1914 годзе ў Котве (сённяшняя Эстонія) ў польскай сям'і. Скончыў Вышэйшую Духоўную Семінарыю ў Пінску і ў Пінскай Катэдры атрымаў святарскае пасвячэнне 8 красавіка 1939 года. Нядоўга ён радаваўся працы ў сваёй першай парафіі ў Пружанах. Вайна і новая ўлада бачылі ў Богу і яго слугах небяспеку для сябе. Вынікам страху ўлады перад Богам быў арышт маладога ксяндза Казіміра і асуджэнне Яго на смерць. Два месяцы ў камеры смерці ён чакаў выканання прысуду. У 1941 годзе разам з іншымі вязнямі ён быў вызвалены жыхарамі Брэста і працаваў у Пружанах да 1944 года. Менавіта тады быў паўторна арыштаваны камуністычнымі ўладамі, асуджаны на 10 гадоў лагернага заключэння, што азначала павольную смерць з голаду і вынішчэння катаржнай працай у сібірскай тайзе ці шахце. Провід дазволіў яму вытрываць доўгія гады мучаніцтва і вярнуцца ва ўласную дыяцэзію. Пружанскі касцёл замянілі на дом культуры, большасць парафіянаў выехала ў Польшчу. Ксёндз Свёнтэк вырашыў, нягледзячы на ўсё, захаваць вернасць гэтай зямлі і гэтаму народу, лёс звязаў яго з пінскай катэдрай, дзе ён нястомна працуе з 1954 года – ужо каля 45 гадоў.

Якім цяжкім было гэтае душпастырства, ведае толькі той, хто ва ўмовах пераследу ўсімі сіламі імкнуўся захаваць прысутнасць Бога ў сэрцах людзей. Ахвяра цярпення, а часта і мучаніцтва каталікаў былі прынятыя Богам. Васьмідзесятыя гады прынеслі плён вернасці Евангеллю, якая праявілася ў цяжкія часы. Касцёл паволі атрымліваў свабоду працы сярод Божага люду.

Устанаўленне новай касцёльнай адміністрацыі і іерархіі распачало новы перыяд у жыцці Касцёла на нашых землях. У 1991 годзе кс. пробашч з Пінска быў прызначаны Мітрапалітам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі. У 1994 годзе Святы Айцец узвысіў ксяндза арцыбіскупа Казіміра Свёнтка да кардынальскай годнасці.

Ксёндз кардынал усім сэрцам уключаецца ў адраджэнне каталіцкага Касцёла Беларусі з руінаў. Ён дапамагае рамантаваць і будаваць святыні, нястомна наведвае свае дыяцэзіі, каб арганізоўваць новаствораныя парафіяльныя супольнасці. Разам з вернікамі радуецца вяртанню касцёлаў іх законным уладальнікам: Богу – для Яго хвалы і людзям – для іх асвячэння. Пасвячае сваіх першых святароў, а для ажыўлення рэлігійнага жыцця на давераных яму землях адкрывае ў 1997 годзе першы Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі і клапоціцца аб яго працы.

Вось 60 гадоў святарства ксяндза кардынала, вось час цярпення і Божай ласкавасці! Такім чынам яго юбілей з'яўляецца ў пэўнай ступені юбілеем усяго нашага Касцёла на Беларусі. Таму – гэта добрая нагода, каб падзякаваць і паабяцаць захаваць вернасць Хрысту, Касцёлу і яго Пастырам.

Дзень 8 красавіка няхай нас з'яднае ў малітве з нашым ксяндзом кардыналам. У гэты дзень мы складаем яму самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Добры Бог адорыць яго на наступныя доўгія гады шчодрымі ласкамі і дазволіць яму радавацца з развіцця Касцёла, якому ён прысвяціў жыццё.

Ваша Эмінэнцыя, ксёндз кардынал! З асаблівай шчырасцю будзем прасіць, каб ксёндз кардынал мог як мага часцей мець радасць ад пераказвання свайго самага каштоўнага скарбу – Хрыстовага святарства – маладым людзям, якія гатовы, як і Эмінэнцыя, служыць усім жыццём Богу і людзям на гэтай зямлі, якая так патрабуе Бога і Евангелля Хрыста.

*У шчырай малітве ў інтэнцыі Яго Эмінэнцыі ксяндза юбіляра з усім Божым людам*

***біскуп Аляксандр КАШКЕВІЧ***
***біскуп Антоні ДЗЯМЯНКА***
***Гродна, у дзень св. Казіміра, 1999 г.***

# Słowo Biskupów Diecezji Grodzieńskiej na Jubileusz 60-lecia kapłaństwa J. Em. Ks. Kardynała Kazimierza Świątka

Drodzy Bracia i Siostry w Chrystusie!

Przeżywany przez nas czas, jest prawdziwie znaczony licznymi Łaskami Dobrego Boga Ojca. Przygotowujemy się do Wielkiego Jubileuszu chrześcijaństwa. Od 2000 lat historię człowieka i świata liczymy od narodzin Chrystusa Pana. Pół roku temu, podczas pamiętnej pielgrzymki do Rzymu, dziękowaliśmy Bogu za 20 lat pontyfikatu Jana Pawła II.

W te znamienne znaki Łaski, Opatrzność wpisuje jeszcze jeden Jubileusz – a jest nim 60-lecie Kapłaństwa naszego Księdza Kardynała Kazimierza Świątka. Okazja ta gromadzi nas wszystkich w modlitwie dziękczynienia wokół osoby Księdza Kardynała. Bogu Najwyższemu dziękujemy za dar Kapłaństwa Pasterza, który jako Metropolita Mińsko-Mohylewski i Przewodniczący Konferencji Episkopatu, a także Administrator Apostolski Diecezji Pińskiej przewodzi naszemu Kościołowi na Białoruskiej ziemi i jest znakiem łączności ze Stolicą Piotrową.

Wdzięczność nasza jest tym większa, że w Osobie Ks. Kardynała, w historii Jego ponad półwiekowej kapłańskiej służby, w przedziwny sposób uwidacznia się, jak w lustrzanym odbiciu, historia ostatnich dziesięcioleci naszego Kościoła.

Ks. Kardynał urodził się w 1914 roku w Kotwie (dzisiejsza Estonia) w polskiej rodzinie. Ukończył Wyższe Seminarium Duchowne w Pińsku i w tamtejszej Katedrze został wyświęcony na Kapłana 8 kwietnia 1939 roku. Niedługo dane Mu było radować się pierwszą placówką w Prużanach. Wybuch wojny i nowa władza widziały w Bogu i Jego sługach zagrożenie dla siebie. Wynikiem strachu władzy przed Bogiem, było aresztowanie młodego Ks. Kazimierza i skazanie Go na śmierć. W celi śmierci przez 2 miesiące oczekiwał wykonania wyroku. Początek wojny 1941 roku darował mu życie: wraz ze współwięźniami został oswobodzony przez ludność Brześcia i pracował w Prużanach do 1944 roku. Wtedy to, powtórnie został aresztowany przez komunistyczną władzę, osądzony i skazany na 10 lat lagrów, co oznaczało powolną śmierć z głodu i wycieńczenia katorżniczą pracą w syberyjskiej tajdze czy kopalni. Opatrzność pozwoliła Mu przetrwać czas męczeństwa i powrócić do własnej diecezji. Prużański kościół zamieniono na dom kultury, większość parafian wyjechało do Polski. Ks. Świątek postanowił pomimo wszystko, pozostać wiernym tej ziemi i temu Ludowi; los związał Go z pińską Katedrą, gdzie niestrudzenie pracuje od 1954 roku, czyli od 45 lat.

Jak trudne to było duszpasterzowanie, wie tylko ten, kto w warunkach prześladowań, wszystkimi siłami starał się uchronić obecność Boga w ludzkich sercach. Ofiara cierpienia, a często i męczeństwa katolików, zostały przez Boga przyjęte. Połowa lat 80 przyniosła owoce wierności Ewangelii okazanej w trudnych czasach. Kościół powoli odzyskiwal swobodę pracy wśród Ludu Bożego.

Ustanowienie nowej Adminisracji Kościelnej i hierarchii, otworzyło nowy rozdział w życiu Kościoła naszych ziem. W 1991 roku Ks. Proboszcz z Pińska został mianowany Metropolitą Mińsko-Mohylewskim i Administratorem Apostolskim Diecezji Pińskiej. W 1994 roku Ojciec Święty podnosi Ks. Arcybiskupa Kazimierza Świątka do godności Kardynalskiej.

Ks. Kardynał włącza się całym sercem w podnoszenie z ruin Kościoła katolickiego na Białorusi. Wspomaga remonty i budowę świątyń, niestrudzenie przemierza swe diecezje by organizować powstające wspólnote parafialne. Wraz z wierzącym ludem raduje się przywracaniem kościołowi ich prawowiernym właścicielom: Bogu – ku Jego chwale i ludziom – ku ich uświęceniu. Święci swych pierwszych kapłanów, a dla ożywienia życia religijnego na terenach Jemu powierzonych, otwiera w 1997 roku i czuwa nad pracami pierwszego Synodu Diecezji Mińsko-Mohylewskiej i Pińskiej.

Oto 60 lat kapłaństwa Ks. Kardynała, oto czas cierpienia i Bożej łaskawości! Tak więc Jego Jubileusz jest poniekąd Jubileuszem całego naszego Kościoła na Białorusi. Jest więc okazją do dziękczynienia i obetnicy wytrwania w wierności Chrystusowi, Kościołowi i jego Pasterzom.

Dzień 8 kwietnia niech nas zjednoczy w modlitwie z naszym Ks. Kardynałem. W tym dniu składamy Mu najserdeczniejsze życzenia: niech Dobry Bóg obdarza Go na następne długie lata obfitymi Łaskami, pozwoli cieszyć się rozwojem Kościoła, któremu poświęcił życie.

Eminencjo, Księże Kardynale! Szczególnie gorąco prosić będziemy, aby Ks. Kardynał mógł jak najczęściej przeżywać radość przekazywania swego najcenniejszego skarbu – Chrystusowego Kapłaństwa młodym ludziom, gotowym, podobnie jak Ty, całym życiem służyć Bogu i ludziom na tej ziemi wołającej o Boga i Chrystusową Ewangelię.

*W gorącej modlitwie w intencji Jego Eminencji Ks. Jubilata z całym Ludem Bożym*

***Biskup Aleksander KASZKIEWICZ***
***Biskup Antoni DZIEMIANKO***
***Grodno, w dniu św. Kazimierza 1999 roku***

# 70-годдзе Лятэранскіх пагадненняў

11 лютага споўнілася 70 гадоў, як былі падпісаныя Лятэранскіх пагадненні, дзякуючы якім узнікла Дзяржава Горад Ватыкан. Пагадненні складаліся з дзяржаўнага трактату, канкардату паміж Італіяй і Ватыканам і фінансавай канвенцыі. Дакументы, якія ўрэгулявалі адносіны паміж Італіяй і Апостальскай Сталіцай, падпісалі ў Лятэранскім палацы дыктатар Беніто Мусаліні і дзяржсакратар Апостальскай Сталіцы кардынал П'етра Гаспарры. Касцёл дэ-юрэ прызнаваў факт існавання Італьянскай дзяржавы са сталіцай у Рыме. Італія, у сваю чаргу, прызнавала існаванне дзяржавы Ватыкан і гарантавала ёй права на ўласную армію, паліцыю, суд, прэсу і радыёвяшчанне. Згодна з фінансавай канвенцыяй, у якасці кампенсацыі за страты, нанесеныя Папскай дзяржаве ў 1870г., калі італьянскае войска захапіла Рым, Ватыкан атрымаў 1,75 млрд ліраў. Канкардат пацвярджаў, што каталіцызм з'яўляецца адзінай дзяржаўнай рэлігіяй у Італіі і гарантаваў выкладанне рэлігіі ў пачатковай і сярэдняй школах. Заключаныя дамовы запэўнівалі Папе свабоду і незалежнасць, неабходныя для кіравання Паўсюдным Касцёлам.



Дзяржава Горад Ватыкан, якая займае плошчу 44 гектары вакол базылікі св.Пятра, мае ўласную пошту, чыгуначны вакзал, грошы, радыёстанцыю "Радыё Ватыкан", газету "L'Osservatore Romano" і войска (Швейцарскую гвардыю), падтрымлівае дыпламатычныя стасункі са 160 дзяржавамі свету. Італія абавязалася забяспечваць Ватыкан вадой і электрычнасцю.

Палітычная сітуацыя ў пасляваеннай Італіі і змены, якія наступілі пасля Другога Ватыканскага Сабору, прывялі ў 1984г. да рэвізіі канкардату. Абодва бакі пацвердзілі ўзаемную суверэннасць і незалежнасць, але каталіцтва ўжо не з'яўляецца адзінай дзяржаўнай рэлігіяй у Італіі. Таксама было ўзгоднена, што вольнымі ад падаткаў будуць толькі тыя пералічэнні на касцёльныя мэты, якія датычаць культу і выхавання.

***KAI***

***На ілюстрацыі: герб Дзяржавы Горада Ватыкан.***

## КОРАТКА

✧ 14 лютага ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы быў забіты бельгійскі місіянер, бенэдыктынец а.Бэрнар Пэлеман, які быў кіраўніком школы для сляпых.

✧ 19 лютага Папа Ян Павел II прыняў кіраўніка Палестынскай аўтаноміі Ясіра Арафата. Як звычайна, змест размовы застаўся ў таямніцы, аднак публічна Папа запэўніў у сваёй малітве за Арафата і ягоны народ. Улады Ізраіля і Палестынскай аўтаноміі запрасілі Святога Айца наведаць Іерусалім.

## Дэкларацыя каталіцкіх біскупаў Расіі

У спецыяльнай дэкларацыі, дасланай 9 лютага Патрыярху Алексію II, члены новастворанай Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Расіі падкрэслілі, што "лічаць сваім абавязкам супрацоўніцтва ў экуменічным руху з мэтай аднаўлення еднасці хрысціянаў". Біскупы (арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскупы Ёзаф Вэрт, Ежы Мазур і Клемэнс Піккель) у сваім служэнні зыходзяць з таго, што пад іх пастырскай апекай па гістарычных прычынах знаходзяцца каталікі лацінскага, візантыйскага і армянскага абрадаў, якія жывуць у Расіі, таму асноўная мэта дзейнасці каталіцкага Касцёла ў Расіі – гэта душпастырства католікаў і задавальненне іх духоўных патрэбаў, – гаворыцца ва ўступе. Біскупы "лічаць недапушчальнымі ўсялякія праявы празелітызму, г.зн. гвалтоўнага навяртання кагосьці ў сваю веру, а таксама ўцягванне ў яе пры дапамозе недастойных сродкаў як чужых духу павагі паміж Цэрквамі і хрысціянскімі супольнасцямі". Адначасова, абапіраючыся на вучэнне Другога Ватыканскага Сабору і шануючы рэлігійную свабоду асобы, біскупы падкрэсліваюць права паасобных людзей на далучэнне да супольнасці каталіцкага Касцёла, калі таго прагне іх сумленне. "Гэтае рашэнне, аднак, павінна быць абумоўлена і апяраджана належнай падрыхтоўкай", – падкрэсліваецца ў дакуменце.

## У Іркуцку будзе новая каталіцкая святыня

Католікі горада Іркуцка атрымалі дазвол на будаўніцтва святыні. Як паведамляе інфарма-

цыйнае агенцтва Інтэр Тасс, улады горада выдзялілі пляц пад будоўлю пасля асабістага хадайніцтва Апостальскага нунцыя ў Расіі арцыбіскупа Джона Букоўскага. У Іркуцку ёсць каталіцкі касцёл, збудаваны ў мінулым стагоддзі. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі ў ім размясцілі канцэртную залу філармоніі. Кіраўніцтва горада лічыць касцёл сваёй уласнасцю і не хоча аддаваць католікам.

Іркуцк належыць да Апостальскай адміністратуры азіяцкай часткі Расіі, якая ахоплівае тэрыторыю ў 12 млн кв. км з насельніцтвам 40 млн чалавек, з якіх католікі – каля 1-2 млн. У большасці гэта нашчадкі палякаў, немцаў, украінцаў, літоўцаў і беларусаў, ў розны час сасланых у Сібір.

## Урад Індыі бяссільны супраць рэлігійных фанатыкаў

На думку каталіцкага біскупа Дэлі Алана дэ Ласціка, цяперашні ўрад Індыі не ў стане супрацьстаяць гвалту індуісцкіх экстрэмістаў над хрысціянамі. У размове з карэспандэнтам нямецкага інфармацыйнага агенцтва KNA, арцыбіскуп дэ Ласцік паведаміў, што прэм'ер-міністр Атал Бэхары Ваджпаі сапраўды "робіць усё, што можа", каб уздзейнічаць на ўлады штатаў і фракцыі кіруючай Індыйскай Народнай Партыі, аднак улады на месцах глядзяць на гвалтоўныя дзеянні "скрозь пальцы". Арцыбіскуп Дэлі лічыць, што прычына агрэсіўнасці індуісцкіх фанатыкаў да хрысціянаў – гэта перадусім непрыязнасць да Касцёла, які выступае супраць грамадскай несправядлівасці, у тым ліку каставай сістэмы і скарумпаваных зямных уладароў. Фундаменталістаў таксама прыводзіць у шаленства асветная дзейнасць Цэркваў, бо ў хрысціянскіх навучальных установах Індыі займаюцца каля 4 млн студэнтаў. Таксама арцыбіскуп адкінуў абвінавачванні ў прымусовай катэхізацыі індусаў і варожасці да індыйскай культуры.

Хваля гвалтоўных дзеянняў супраць хрысціянаў дасягнула кульмінацыйнага пункту 23 студзеня, калі ва ўласнай машыне быў спалены пратэстанцкі місіянер і двое яго дзяцей. 29 студзеня каля 3000 тыс. індыйскіх хрысціянаў і мусульманаў выйшлі на вуліцы Дэлі з пратэстам супраць дыскрымінацыі рэлігійных меншасцяў у краіне. У маніфестацыі ўдзельнічалі арцыбіскуп дэ Ласцік і імам сталічнай мячэці Шары Бухары.

У 1998г. у Індыі зарэгістравана каля 110 выпадкаў гвалту над хрысціянамі, якія складаюць 2,5% насельніцтва краіны.

## Мільярдэры падтрымліваюць кантроль нараджальнасці

Самы заможны чалавек у свеце, уласнік «Microsoft» Біл Гейтс, ахвяраваў 3,3 млн даляраў на падтрымку сваіх двух фундацый, якія фінансуюць праграмы кантролю нараджальнасці ў краінах трэцяга свету. Паводле часопіса «Fortune», амерыканскі мільярдэр пералічыў 2,2 млн даляраў на рахунак Фундацыі імя Уільяма Гейтса і 1,1 млн – Адукацыйнай фундацыі Гейтса. Першая фундацыя, якая носіць імя бацькі Біла Гейтса, мае на мэце перадусім «рэпрадукцыйнае здароўе» і «кантроль росту насельніцтва» у краінах на стадыі развіцця. На практыцы гэта азначае прапаганду ўсіх формаў кантрацэпцыі, што рашуча асуджаецца Апостальскай Сталіцай. Фундуш Гейтса стаў самай значнай сумай, прызначанай калі-кольвечы на гэтую справу. Гейтс – не першы фінансавы магнат, які падтрымлівае кантроль за нараджальнасцю. У мінулым годзе ўласнік тэлесеткі CNN Тэд Тэрнэр ахвяраваў мільён даляраў на праграмы ААН па кантролю росту насельніцтва. А Уоррэн Баффэт, другі у спісе самых заможных людзей свету, паабяцаў, што пасля ягонай смерці вялікую частку яго капіталу атрымаюць арганізацыі, якія выступаюць за кантроль нараджальнасці, каб яны змаглі стаць самымі моцнымі пазаўрадавымі структурамі ў свеце.

## Ватыкан: гомасексуальныя адносіны пярэчаць вучэнню Касцёла

У чарговы раз Апостальская Сталіца пацвердзіла негатыўнае стаўленне да гомасексуалізму, аднак асудзіла дыскрымінацыю гомасексуалістаў. У заяве, апублікаванай 15 лютага ў Ватыкане пасля сустрэчы кардынала Рацынгера з амерыканскімі біскупамі, сцвярджаецца, што гомасексуалізм не адпавядае вобразу чалавека ў вучэнні Касцёла.

9-12 лютага ў Сан-Францыска прэфект Кангрэгацыі веравучэння кардынал Рацынгер сустрэўся з біскупамі Паўночнай Амерыкі і Акіяніі, адказнымі за навуку веры. Былі закранутыя актуальныя тэмы, звязаныя з навучальнай місіяй Касцёла, супрацоўніцтвам біскупаў з тэолагамі, роляй жанчыны ў касцельным жыцці, душпастырствам гомасексуалістаў. У заяве сцвярджаецца, што Касцёл адкідае маральны рэлятывізм, які супярэчыць аб'ектыўнасці маральна-этычных нормаў. Адначасова Касцёл асуджае гвалт над людзьмі з гомасексуальнымі схільнасцямі. Калі казаць пра ролю жанчыны, то «універсальны заклік да святасці ў аднолькавай ступені датычыць як жанчын, так і мужчын», – напісана ў дакуменце.

## Ватыкан хоча дапамагчы Аджалану

Апостальская Сталіца выказала гатоўнасць дапамагчы лідэру Курдскай Рабочай Партыі Абдаллаху Аджалану, які знаходзіцца ў турэцкай турме. У інтэрв'ю рымскай газеце «La Repubblica» дзяржсакратар Ватыкана кардынал Анджэло Садано падкрэсліў, што правы чалавека датычаць усіх, і чалавечае жыццё трэба абараняць пры любых абставінах. Кард. Садано пацвердзіў, што калі Апостальскую Сталіцу папросяць уздзейнічаць па дыпламатычных каналах на турэцкі ўрад у справе захавання Аджалану жыцця, то Ватыкан, безумоўна, будзе гэта рабіць. Дарэчы, з такой просьбай ужо звярнуліся італьянскі адвакат Аджалана і старшыня курдскага парламента на эміграцыі.

## Судан: тысячы католікаў выгнаны ў пустыню

Мусульманскія ўлады прымусілі дзесяткі тысячаў католікаў, якія жылі ў мястэчку ў прадмесці Хартума, збудаваным іх уласнымі рукамі, пакінуць свае сялібы і вярнуцца ў пустыню. Паводле каталіцкага інфармацыйнага агенцтва CWN, каля 150 тыс. уцекачоў з паўднёвага Судана, дзе працягваецца грамадзянская вайна, пераважна хрысціянаў, знайшлі паратунак у мястэчку Хадждж-Ёссэф. Урад не зрабіў нічога, каб дапамагчы гэтым людзям. Хадждж-Ёссэф было збудавана самімі уцекачамі. Спачатку гэта былі зямлянкі, потым на іх месцы ўзніклі дамы з цэглы. Жыхары мястэчка выкапалі студню, стварылі прыватную аўтобусную лінію, каб мужчыны маглі ездзіць на працу ў Хартум. Каталіцкі Касцёл стварыў тут дзіцячы прытулак, дзе адпраўлялася Св. Імша і адбываліся заняткі рэлігіі. Каля 10 тыс. дзяцей наведвалі каталіцкія школы архідыяцэзіі Хартума.

Тым часам гарадскія ўлады вырашылі, што існаванне мястэчка, акрэсленага як «нестабільнае зборышча ўцекачоў» супярэчыць планам агламерацыйнага развіцця. Насельніцтва Хадждж-Ёссэф прымусілі пакінуць свае дамы і падацца назад у пустыню. Уладамі гэты раён быў прызначаны для пабудовы новых прамысловых прадпрыемстваў. Адзіная дапамога, якую яны прапанавалі ўцекачам, – бясплатны транспарт у нікуды.

## Польшча: крыжы для замойскіх сем'яў

Замойскі біскуп Ян Шрутва пасвяціў крыжы, якія 20 лютага прынеслі ў катэдру вернікі разам са свімі душпастырамі. Біскуп выразіў перакананне, што плёнам прыняцця крыжа ў сям'ю будзе навяртанне. перамена жыцця і «трываласць у нясенні ўласнага крыжа». Праграму дзённай адарацыі крыжа ў сям'і склаў біскуп Марыюш Ляшчынскі, які таксама прымаў удзел ва ўрачыстасці пасвячэння крыжоў.

## У свеце каля мільярда католікаў

Лік католікаў у свеце вырас і дасягае сёння мільярда. Пра гэта было паведамлена ў Ватыкане падчас прэзентацыі новага штогодніка «Annuario Pontificio» на 1999г. Напрыканцы 1997г. у свеце жыло 1,005 млрд католікаў, што складае 17,3% насельніцтва зямлі. Душпастырскае служэнне нясуць 3,3 млн каталіцкіх пастыраў, у тым ліку 4 420 біскупаў, звыш за 404 200 святароў, 24 400 пастаянных дыяканаў. У свеце налічваецца 819 200 законніц. У параўнанні з папярэднім годам лік святароў прынцыпова не змяніўся, затое на 4,1% вырасла колькасць пастаянных дыяканаў. За гэты ж перыяд колькасць законных братоў і сясцёр зменшылася на 1,3 %. Новы статыстычны даведнік паказвае, што найбольш католікаў жыве ў Амерыцы – 62,9% насельніцтва, у Еўропе – 41,4%, у Акіяніі – 27,5%, у Афрыцы – 14,9% і Азіі – 3% ад агульнай колькасці насельніцтва.

## Чарнаскурыя дыяканы з Конга ў польскіх парафіях

Два дыяканы, якія паходзяць з дыяцэзіі Ауанда ў Конга, – Мацiас Кір Онзэ і Жан Ражэ Балю – разам з польскімі алюмнамі шостага года Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Тарнове распачалі практыку у парафіях Тарноўскай дыяцэзіі. «Я быў вельмі цёпла прыняты ксяндзом-пробашчам. А найбольш радуюцца дзеці і моладзь», – паведаміў пасля першага дня практыкі дыякан Ражэ Балю. Абодва ў Польшчы з 1993г. Семінарыя ў Конга з прычыны ваенных дзеянняў была зачынена, а клерыкі адпраўлены вучыцца ў духоўных семінарыях па ўсім свеце. У інтэрв'ю карэспандэнту КАІ чарнаскурыя дыяканы падкрэслілі, што самым цяжкім для іх было вывучыць польскую мову.

## В'етнам: Касцёл удзельнічае ў будаўніцтве жылля

Архідыяцэзія Хо Шы Міна падтрымала намаганні ўладаў у справе будаўніцтва жылля для бедных. За адзін тыдзень вернікі сабралі суму, роўную 54 тыс. дал. Каталіцкі Касцёл выказаў гатоўнасць дапамагаць у гэтай справе і надалей.

***КАІ***



# Галоўны апякун Літвы

## 4 сакавіка — дзень св. Казіміра

Святы Казімір быў другім сынам караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Казіміра Ягелончыка і Альжбеты Венгерскай, дачкі германскага караля Альбрэхта II. Ён нарадзіўся 5 красавіка 1458г. у Кракаве, выхоўваўся разам з братамі пад наглядам пабожнай і мудрай каралевы, "маці Ягелонаў", каноніка Длугаша, св.Яна Канта і Філіпа Калімаха. Сярод братоў ён вылучаўся выключнымі здольнасцямі, асабліва ж – пабожнасцю і дбайнасцю. Яго не прываблівалі гучныя рыцарскія забавы, юнака задавальняла асяроддзе ўбогіх, якім ён ахвотна раздаваў міласціну, захоўваючы асабістую стрыманасць. Казімір атрымаў вялікі дар малітвы: доўгія гадзіны ўдзень і уночы ён мог праводзіць каля алтара Маці Божай або перад замкнёнай брамай касцёла.

Яму было 12 гадоў, калі на Вавэль прыехалі збунтаваныя венгерскія магнаты, каб прапанаваць карону сваёй дзяржавы. Згадзіўшыся з пажаданнем бацькі, Казімір накіраваўся ў Венгрыю, аднак пад самай сталіцай шлях яму перапыніў кароль Мацей Корвін на чале шаснаццаці тысячаў войска. Магнаты адмовіліся ад дапамогі запрошанаму польскаму каралевічу, і яму прыйшлося вярнуцца з нічым назад у Рэч Паспалітую. Усё гэта толькі ўмацавала Казіміра ў пагардзе да свету і яго хвалы.

Калі самы старэйшы брат, Уладыслаў, у 1475г. сеў на чэшскі пасад, перад Казімірам зноў заяснеў бляск кароны, гэтым разам ужо польскай. З той пары ён пачаў суправаджаць бацьку як будучы манарх, удзельнічаў у нарадах, нават кіраваў Польшчай, калі кароль мусіў быць у Літве (1481-1483).

Сухоты і суровы лад жыцця падрывалі сілы маладога князя. Улетку 1483г. ён па просьбе бацькі пераехаў у Вільню, дзе, як лічылася, быў лепшы клімат. Сапраўды, стан яго здароўя палепшыўся, і святы Божага Нараджэння ён змог правесці ў Гародні разам з бацькамі. Тады лекары пачалі схіляць Казіміра парушыць пажыццёвы шлюб чыстасці або папрасіць пра дыспэнсу і падумаць пра сужэнства з дачкой Фрыдрыха III, маўляў, гэта дапаможа слабому здароўю. Аднак каралевіч адкінуў прапановы лекараў.

Даведаўшыся пра пагаршэнне здароўя сына, кароль паспяшыў у Гародню і яшчэ ўбачыў яго жывым. У нядзелю 4 сакавіка 1484г. святы каралевіч Казімір перайшоў у вечнасць. Труну з целам паклалі ў Віленскай катэдры, у капліцы Найсвяцейшай Марыі Панны. У 1518г. кароль Жыгімонт I Стары, родны брат св. Казіміра, даслаў у Рым просьбу аб кананізацыі. Для разгляду гэтай справы на пачатку 1520г. Папа Леў Х адправіў у Рэч Паспалітую свайго легата Захарыю Феррэры. Ён, захоплены асобай святога, склаў у яго гонар лацінскі гімн і напісаў першы жыццёрыс. У 1521г. на падставе справаздачы легата Феррэры Леў Х выдаў кананізацыйную булу і ўручыў яе плоцкаму біскупу Эразму Цёлку, які тады быў у Рыме. Аднак біскуп памёр падчас пошасці, і ўсе яго дакументы загінулі (1522). Нарэшце, дзякуючы намаганням караля Жыгімонта III, 7 лістапада 1602 г. Папа Клімент VIII выдаў новую булу аб кананізацыі Казіміра на падставе знойдзенай у архіве копіі папярэдняй булы Льва Х. Калі з нагоды кананізацыі праз 118 гадоў з дня яго смерці труна святога была адчынена, цела знайшлі нятленным. У труне ляжаў пергамент з любімым спевам Казіміра да Найсвяцейшай Багародзіцы *"Omni die dic Mariae"*, які прыпісваюць св. Бернарду.

Святы Казімір – галоўны апякун Літвы. Паколькі Беларусь таксама з'яўляецца спадкаемніцай Вялікага Княства Літоўскага, св.Казімір – апякун і нашай зямлі. У Віленскай дыяцэзіі існуе традыцыя святочнага гандлю на Казюкаса абаранкамі, пернікамі і пальмамі. У 1907г. у ЗША было заснавана літоўскае жаночае законнае зграмаджэнне св. Казіміра. Яго імя носіць таксама створаная ў 1948г. у Рыме Літоўская калегія. У тым жа годзе Пій XII абвясціў яго галоўным апекуном літоўскай моладзі. З нагоды 500-годдзя з дня нараджэння святога ў 1958г. ватыканская пошта выпусціла серыю марак. У 1960 г. Мальтыйскія рыцары абралі св.Казіміра сваім апекуном. Два населеных пункта – у Венесуэле і ў Канадзе носяць яго імя. На Беларусі св.Казіміра абрала сваім апекуном Гродзенская дыяцэзія.

***Аляксандр СОЛАД***

# ЯК ПАСТЫРЫ АБЛУДНЫХ ВЫЦІСКАЮЦЬ З "БРАТОЎ І СЯСЦЁР" ІХ ДУШЫ ДЫ ГРОШЫ

***У журналістыцы існуе такое паняцце, як "гарачая тэма". Пэўны час аб ёй гавораць у эфіры, пішуць на старонках газет. Гэта цягнецца толькі да з'яўлення новай сенсацыі. Але ёсць тэмы, якія з "гарачых" ператвараюцца ў "набалелыя". Адна з такіх – сектанцтва.***

Паводле тлумачальнага слоўніка Уладзіміра Даля, сектанцтва – гэта суполка, якая прыняла ўласнае вучэнне аб веры. Страшна тое, што дзейнасць некаторых рэлігійных канфесій шкодная як для здароў'я вернікаў, так і для дзяржавы. Таму іх называюць дэструктыўнымі. І, як ні сумна, яны у нас ёсць. Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь зрабіў выснову аб дэструктыўнасці наступных рэлігійных і грамадскіх структураў: Вялікага Белага Брацтва (ЮСМАЛОС), Багародзічнага цэнтра (Марыянскага руху царквы Белай Святой Русі), вучняў Езуса Хрыста, Сям'і любові (Дзяцей Бога), царквы Аб'яднання, Царквы Апошняга Запавету Вісарыёна, "АУМ Сінрыкё", "Ахмадыя", царквы Сатаны, Лігі духоўнага адраджэння Санатана Дхарма, царквы Саенталогіі (на Беларусі зарэгістравана як "Дыянэтыка"), Студэнцкай асацыяцыі CARP (грамадскі філіял царквы Аб'яднання Муна), "Сусветнага духоўнага ўніверсітэту Брахма Кумарыс".




***Улётка адной з сектаў прапануе "найпрайсцейшы" шлях да Бога***

## АНАТОМІЯ

Першая і галоўная ўмова, "дзякуючы" якой стаў магчымым "экспарт" гэткай, так бы мовіць, "веры" – атэізм сацыялістычнага мінулага, узведзены на ўзровень дзяржаўнай палітыкі. Але, нягледзячы ні на што, на працягу амаль васьмідзесяці гадоў нашыя людзі, патаемна ці яўна, хацелі верыць. Жаданнем вернікаў, якія, прагнучы Бога, на жаль, забыліся пра запаведзь Божую "Не май іншых багоў, апроч Мяне", паспяшылі скарыстацца ўсялякія хатняга вырабу "гуру", "настаўнікі" ды іншыя "правадыры".

## ГЕРОІ СМУТНЫХ ЧАСОЎ

Гэта яны як воўчая зграя напрыканцы 80-х абрынуліся на яшчэ не захопленыя ім падобнымі абшары былога "вялікага і магутнага" Саюза ССР. Натуральна, што на пачатку сваёй дзейнасці яны былі толькі баязлівымі вучнямі, што спасцігаюць азы філасофіі, гісторыі, рэлігіі і псіхалогіі на занятках у замежных місіянераў. На жаль, зерне адшчапенства трапіла на добрую глебу.

Да тых жа 80-х гадоў трэба аднесці і недагляд дзяржавы ў адносінах да дэструктыўных сектаў. Калі б яна была больш пільнай і прадбачлівай, шмат якіх хібаў можна было б пазбегнуць.

Але парасткам сектанцтва ўсё ж было наканавана ўзысці ва ўмовах эканамічнага і палітычнага хаосу. Людзі, страціўшы былыя каштоўнасці і простыя арыенціры, усё больш адчувалі патрэбу ў падтрымцы, шукалі яе, прагнулі лепшага жыцця. У першую чаргу, гэта датычыла моладзі. Вось тут і з'явіліся вучні замежных магістраў. Распачаўся

## АЎКЦЫЁН ДУХОЎНАСЦІ

Набор новых членаў у секту – гэта фактычна збор першапачатковага капіталу. Спачатку структура працуе на цябе, потым – ты на яе. Найбольш характэрны прыклад падобнай дзейнасці – царква Аб'яднання Сён Мён Муна.

Тых, хто зацікавіўся "боскім прынцыпам", па-

чынаюць "частаваць" філасофскімі семінарамі, заняткамі па гісторыі рэлігіі, культуры і мастацтва. Найбольш здольных вызначаюць. Яны, дарэчы, і складаюць аснову "другога кола".

Напачатку метады ўздзеяння даволі мяккія. Навабранца атуляюць увагай, пяшчотай, даюць адчуць сваю неабходнасць і значнасць у арганізацыі. Такім чынам яго вельмі моцна "прышчэпліваюць" да секты. Але і ён сам нікуды ўжо не пойдзе, бо секце ён патрэбны, а астатні свет страціў для яго прывабнасць. З гэтага моманту сектант пачынае "разлічвацца па рахунках". Чым? Ды сваёй душой... Нездарма ж найбольш пільная ўвага скіравана на таленавітых студэнтаў. Іх інтэлектам і здольнасцямі можна карыстацца ўжо сёння, а сувязямі і пасадамі – у будучыні.

Дзякуючы падобнай практыцы паслядоўнікі Муна атрымалі пэўныя поспехі. У шэрагу краін (ЗША, ФРГ, Японіі, Паўднёвай Карэі) члены секты займаюць кіраўнічыя пазіцыі. А сама секта з'яўляецца буйной фінансава-прамысловай карпарацыяй: валодае заводамі па вытворчасці ўзбраення, апрацоўцы тытана, фармацэўтычнымі прадпрыемствамі, сродкамі масавай інфармацыі...

Зусім іншыя метады ўздзеяння на чалавечае сумленне былі ў нашай "хатняй" секты

## "БЕЛАЕ БРАЦТВА"

Асноўным напрамкам сваёй дзейнасці спадар Крываногаў (адзін з кіраўнікоў брацтва, ён жа Юоан Свамі) лічыў пастаяннае папаўненне секты навабранцамі і іх максімальнае выкарыстанне. Ягоная сістэма "выціскання" сродкаў працавала добра. Сектанты жылі вельмі сціпла, быў усталяваны жорсткі псіхалагічны кантроль над сумленнем "братоў і сясцёр". Юнакі і дзяўчаты, а менавіта яны складалі большасць у секце, цалкам залежалі ад сваіх духоўных "настаўнікаў", якія і вызначалі для іх жыццёвы шлях і грашовы падатак. Калі ж нехта з моладзі не вытрымліваў, вакантнае месца адразу ж займаў новы адэпт.

На жаль, сваёй знакамітасцю "Белае брацтва" абавязана журналістам. Гэта яны распавядалі пра "таямніцы" секты і, самі таго не жадаючы, прываблівалі ў арганізацыю новых членаў. Але не ў гэтым сутнасць. У "камедыі масак" яе трэба шукаць паміж злом і злом. Бо што б ні казалі стваральнікі дэструктыўных сектаў і культаў, мэта ў іх адзіная – улада і грошы. І на шляху да гэтага яны не спыняцца нават перад такой "дробяззю", як чалавечы лёс.

Сёння вельмі важна спыніць дзейнасць усялякіх псеўдарэлігійных рухаў. Без "свежай крыві" і значных грашовых паступленняў яны задыхнуцца. Але ўсё ж такі трэба добра ўсведамляць, што паранены вораг небяспечны ўдвая. А ў чым нельга адмовіць сектанцкім лідэрам, дык гэта ў хітрасці. Яны толькі і чакаюць, калі адкрыецца для іх які-небудзь пералаз, каб зноўку распачаць сваю пачварную дзейнасць па лоўлі чалавечых душаў...

***Сяржук АЛЕКСАНДРОВІЧ***

***P.S. Як паведамілі ў Камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Міністэрства юстыцыі мае намер спыніць дзейнасць "Дыянэтыкі". Справа гэтай арганізацыі знаходзіцца на разглядзе ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь. Напэўна, у адпаведнасці з дэкрэтам Прэзідэнта аб перарэгістрацыі партый і грамадскіх арганізацый, не пройдзе перарэгістрацыі асацыяцыя CARP – яна ўжо атрымала пісьмовае папярэджанне.***

***Да ліку псеўдарэлігійных культаў трэба далучыць спіс арганізацый, якія на сёння падлягаюць рэлігіязнаўчай экспертызе Камітэта (пералік няпоўны, не здзіўляйцеся мудрагелістасці назваў):***

*1. "Беларуская народная царква"*
*2. Рух гуру Сацья Саі Бабы*
*3. Дзэн-буддызм*
*4. Тэасофія*
*5. Цэнтр Ашо*
*6. Жывая Этыка (Агні-Ёга)*
*7. "Аўтарытэт ментала"*
*8. Таварыства Бруна Грэнінга*
*9. Міжнароднае таварыства Трансцэндэнтальнай медытацыі (Махарышы)*
*10. Вучэнне Грааля*
*11. Рух Мэтра Данга*
*12. Паганцы*
*13. Рэспубліканскі цэнтр "Анастасія"*
*14. Авестыйская школа астралогіі*
*15. Вучэнне Парфірыя Іванова*
*16. "Свабоднае дыханне"*
*17. "Мастацтва жыцця"*
*18. "Зямля Рэйкі"*
*19. Таварыства адзінства духоўных культур "Адраджэнне"*
*13. Таварыства адраджэння культуры старажытных славянаў "Славянін"*
*14. Маладзёжны цэнтр славянскай культуры "Рус"*

# 2000 год – юбілей чаго?

## Хрысціяне ў Брытаніі задаюць пытанне пра сэнс будучага сяткавання

Некалькі апошніх месяцаў прэса ў Вялікабрытаніі шмат увагі ўдзяляе магчымасці адмовы кіраўнікоў англіканскага і каталіцкага Касцёлаў – арцыбіскупа Джорджа Кэры і кардынала Бэзіла Х'юма ўдзельнічаць у нацыянальным святкаванні сустрэчы новага тысячагоддзя. У пачатку гэтага года яны асудзілі праект грандыёзнай латэрэі (яе арганізатары мяркуюць, што сума галоўнага выйгрышу складзе некалькі дзесяткаў мільёнаў даляраў), вынікі якой плануецца абвясціць у першыя хвіліны Святога году. А ў канцы лютага арцыбіскуп Джордж Кэры заявіў, што скептычна ставіцца да магчымасці яго ўдзелу ў адкрыцці гіганцкага Дома Тысячагоддзя, што будуецца ў Лондане па ініцыятыве брытанскага ўраду. Арцыбіскуп Кентэрберыйскі не будзе ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, калі там, як гэта цяпер і мяркуюць зрабіць арганізатары, не знойдзецца месца для хрысціянскай малітвы. Кіраўнік англіканскага Касцёла выказаў упэўненасць, што падобнае ж рашэнне прыме і кардынал Х'юм. У інтэрв'ю "The Catholic Herald" Кэры, між іншым, сказаў: "Мы абодва абсалютна перакананы, што святкаванне новага тысячагоддзя не мае ў сабе аніякай каштоўнасці, калі яно не стаіць на якары Уцелаўлення. Гэта стане ўсяго толькі прыгожай і пышнай, але бессэнсоўнай цырымоніяй, калі святкаванне не будзе звязана з нараджэннем Езуса Хрыста".

Дыскусія наконт святкавання надыходу новага тысячагоддзя ў Брытаніі – лакальная, але яскравая ілюстрацыя стану падвоенасці ў жыцці еўрапейскага грамадства. З аднаго боку, хрысціянства дагэтуль застаецца незаменным стрыжнем еўрапейскай культуры, біблійнае разуменне чалавека ляжыць у аснове універсальных чалавечых каштоўнасцяў. З другога боку, уласцівая хрысціянству ідэя свабоды з'яўляецца выклікам для яго самога. Сярод іншага, гэта выяўляецца ў тым, што рэлігія часта становіцца адной з першых ахвяраў імкнення асобнага чалавека і грамадства да свабоды без адказнасці. Калі ў хрысціянстве бачыць толькі арганізацыю, што найчасцей і здараецца, то немагчыма рэальна ацаніць яго ідэятворчую ролю ў свеце. Тады ўзнікае вобраз рэакцыйнай рэлігіі, ад якой грамадства імкнецца пазбавіцца або, у лепшым выпадку, стварае ёй рэзервацыю для існавання. Мабыць таму так часта можна пачуць, што рэлігія – гэта выключна прыватная справа чалавека. Між тым, жыць у грамадстве – нармальны стан для чалавека, а прысутнічаць паўсюль, дзе ёсць чалавек – натуральнае памкненне хрысціянства.

Без Нараджэння Хрыста не было б новага тысячагоддзя. Наіўным і дзіўным выглядае жаданне зрабіць грандыёзнае свята на пустым месцы. Сапраўды, як можна патлумачыць яго сэнс, калі не ўзгадваць пра "Святло з Усходу"? Між тым, некаторыя каталіцкія арганізацыі (у першую чаргу дабрачынныя) ужо паведамілі, што не будуць удзельнічаць у юбілейных урачыстасцях з-за іх дарагавізны. Многія з іх далучыліся да кампаніі, ініцыяванай рознымі хрысціянскімі арганізацыямі з мэтай пераканаць урады заможных краін і міжнародныя фінансавыя структуры аказаць напярэдадні новага тысячагоддзя неабходную дапамогу ўбогім і скасаваць аграмадныя пазыкі найбяднейшых краінаў. Мабыць, гэта найлепшае, што чалавецтва магло б зрабіць сёння, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя.

***Алесь НЕШЧАРДА***

# Англікане вяртаюцца ў каталіцкі Касцёл

Як паведаміў лонданскі штотыднёвік "The Catholic Herald", у Вялікабрытаніі кожны год да Касцёла далучаецца ад 5 да 6 тысячаў дарослых. Верагодна, што большасць з іх – у мінулым англікане. З 1981 г. (калі быў пачаты адпаведны падлік) гэтая лічба застаецца стабільнай. Яна, – лічыць Кайрэн Конры, кіраўнік каталіцкага інфармацыйнага цэнтра, – на самой справе яшчэ большая, бо некаторыя дыяцэзіі маюць уласныя практыкі далучэння да Касцёла катэхуменаў і кандыдатаў. У большасці дыяцэзій "новыя" каталікі удзельнічаюць у т. зв. "абрадзе хрысціянскай ініцыяцыі дарослых" альбо "абрадзе прыняцця", якому папярэднічае доўгая і грунтоўная катэхетычная падрыхтоўка ў парафіях. Яна таксама дапамагае "маладому" верніку знайсці адпаведнае месца ў жыцці сваёй парафіяльнай супольнасці. У адну з нядзеляў Вялікага посту больш як 800 "новых" каталікаў былі запрошаны кардыналам Бэзілам Х'юмам удзельнічаць у "абрадзе прыняцця" у Вестмінстэрскай катэдры. Падчас гэтае ўрачыстае цырымоніі кардынал казаў пра Вялікі пост як апошні перыяд падрыхтоўкі да юбілейнага 2000 году. Ён адзначыў, што было б трагедыяй, калі б хрысціяне дазволілі, каб Святы год ніякім чынам не паўплываў на свет.

***І. І.***

# Былыя “остарбайтэры” атрымаюць кампенсацыю

Шэраг буйных нямецкіх прамысловых кампаній, сярод якіх – сусветна вядомыя “БМВ”, “Фольксваген”, “Ціссэн-Круп” нарэшце вырашылі “разлічыцца” з нашымі суайчыннікамі, якія прымусова працавалі на іх падчас Другой сусветнай вайны. Гэта стала магчымым дзякуючы намаганням новага федэральнага канцлера ФРГ Герхарда Шродэра, у ліку перадвыбарчых абяцанняў якога быў пункт аб выплаце кампенсацый ахвярам паднявольнай працы ў фашысцкай Германіі.

Падчас лютаўскага візіту Шродэра ў Маскву гэтая тэма была адной з самых галоўных у ходзе перамоваў з прэзідэнтам Б.Ельцыным. Вынікам сустрэчы стала пацвярджэнне канцлерам ФРГ таго, што ў бліжэйшы час былыя “остарбайтэры” з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі, Венгрыі змогуць атрымаць, згодна з нямецкім заканадаўствам, па 12-15 тысяч марак.

Выдаваць грошы ў нямецкай валюце будуць фонды “Узаемаразуменне і прымірэнне”, створаныя ў гэтых краінах.

**С.Ю.**

# “Maximilian-Kolbe-Werk” крытыкуе Фонд Нямецкай Гаспадаркі

“Maximilian-Kolbe-Werk”, нямецкая арганізацыя, якая дапамагае ахвярам Трэцяга Рэйха выступіла з крытыкай Фонда Нямецкай Гаспадаркі, які будзе выплочваць кампенсацыі тым, хто прымусова працаваў у Германіі ў гады Другой сусветнай вайны. “Абуральна тое, што памер квоты будзе выплочвацца ў залежнасці ад краіны паходжання пацярпелага”, – паведаміў у чацвер 18 лютага прэзідэнт гэтай арганізацыі Вэрнэр Рэммерс. “Памер кампенсацый не павінен залежаць ад вагі гаспадарчых інтарэсаў нямецкіх фірм у дадзенай краіне, – дадаў шэф “Maximilian-Kolbe-Werk” і заклікаў урад не разглядаць былых “остарбайтэраў” як пацярпелых “другога гатунку”.

16 лютага дванаццаць канцэрнаў і банкаў прыйшлі да паразумення з урадам Германіі ў справе стварэння спецыяльнага фонда для выплочвання кампенсацый былым прымусовым працаўнікам Трэцяга Рэйха. Неафіцыйна паведамляецца, што нямецкія фірмы павінны выплаціць 3,5 млрд марак. Паводле звестак з урадавых колаў Германіі, кампенсацыіі перадусім будуць выплочвацца пацярпелым, якія жывуць у ЗША.

**KAI**



***Рэдакцыя “КН” атрымала ад вернікаў пастаўскай парафіі ліст-падзяку за пяцігадовае служэнне былому пробашчу, сэрцаніну кс.Збігневу Бояру, які цяпер працягвае працу на Божай ніве ў Шаркаўшчыне. Выконваючы іх просьбу, мы друкуем ліст ў скарачэнні.***

# ШАНУЙЦЕ СВАІХ СВЯТАРОЎ!

Пяць гадоў таму ў Паставы прыехаў працаваць пробашчам кс.Збігнеў Бояр. Касцёл наш быў адбудаваны крыху раней; у 1988г. пачаў дзейнічаць, збіраў многа вернікаў. Аднак большасць у касцёле складалі людзі сталага веку – тыя, у каго не была знішчана вера за савецкі час. Трэба было будаваць Касцёл у душах маладзейшых – тых, хто толькі ўваходзіў у жыццё, хто выхоўваў дзяцей.

І ксёндз-пробашч Збігнеў спраўляўся з гэтым, ахвяруючы сваім асабістым часам, сном, здароўем. Пачалі дзейнічаць «Сямейны касцёл», дзіцячы хор, маладзёжная малітоўная група (кожны чацвер у нас Св.Імша для моладзі), «Жывы Ружанец», сінадальная група... Пад кіраўніцтвам пробашча дзейнічаў лагер адпачынку для дзяцей, моладзі і сем’яў «Аазіс», пілігрымкавы рух. Як у ксяндза Збігнева ўсё гэта атрымлівалася? Напэўна, ён вельмі моцна, як сказаў адзін паэт, «любіў людзей, зямлю і Неба». У яго невычэрпная энергія, вялікая працаздольнасць. Ніколі ён не адмаўляў людзям у іх штодзённых патрэбах, дапамагаў вырашыць розныя пытанні, калі бачыў, што людзі сур’ёзна ставяцца да Касцёла, прыслухоўваюцца да яго парадаў. (...)

На месцы пусткі, чарнаты, бязвер’я ў нашых душах з’явіліся Святло, Любоў, Бог. За спакой у нашых сем’ях, у нашых душах, за святло, якое мы маем і якім можам падзяліцца з іншымі, мы ўдзячныя Богу і кс.Збігневу. (...) Мы заклікаем, просім усіх вернікаў: шануйце сваіх святароў, дапамагайце ім як толькі можаце, бо яны за нас ахвяруюць сваім жыццём. А мы такой няўдзячнасцю ім адплочваем!

***Вернікі Пастаўскай парафіі.***

# НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ПАВІННА АБРАЦЬ ЗАКОНАПАСЛУХМЯНЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ



Крымінальнае становішча ў нашай краіне па-ранейшаму застаецца даволі цяжкім. На 100 тысяч жыхароў прыпадае 1204 злачынстваў. Значная частка з іх належыць да катэгорыі цяжкіх. З усіх 122858, учыненых у мінулым годзе, яны складаюць 58604, ці 47,7%. Вынікам шэрагу з іх стала смерць 2754 чалавек. 49027 крымінальных спраў скончыліся вынясеннем прысуду 59700 чалавекам. Асабліва ўражвае тое, што дзесятая частка (6 тысяч) асуджаных мае ўзрост ад 14 да 18 гадоў.

На жаль, яны не апошнія, хто з залы суда трапляе за краты. Бо на "лаве запасных" — больш за 18 тысяч непаўналетніх, якія знаходзяцца на спецыяльным ўліку ў органах унутраных спраў. І не дарэмна. Бо ў мінулым годзе на сумленні 7941 падлетка — 9889 злачынстваў. Сярод іх не толькі "звыклыя" крадзяжы, рабаванні і згвалтаванні, але нават і забойствы. Большасць з іх было ўчынена пад уздзеяннем алкаголю, наркотыкаў ці таксічных рэчываў.

Дзе ж знаходзяцца карані падлеткавай злачыннасці? Спецыялісты айчыннага НДІ праблемаў крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертызаў лічаць, што вытокі крымінальных паводзінаў маладога пакалення – сацыяльныя. Гэта, так бы мовіць, своеасаблівы вынік сучаснага выхавання, калі на вачах у падлеткаў бацькі, часам крымінальнікі, "бавяцца" гарэлкай, сварацца, б'юцца, распуснічаюць. А дзеці, каб не бачыць усёй гэтай брыдоты, бягуць на вуліцу, дзе і сустракаюць такіх жа абдзеленых, як і яны самі. Ствараюцца асацыяльныя групоўкі, у якіх для атрымання пэўнага статусу, трэба зацвердзіцца, здабыць павагу сяброў. Часцей за ўсё яна здабываецца злачынным шляхам. Далей падзеі развіваюцца па тыповым сцэнарыі: суд, калонія, назаўсёды скалечанае жыццё.

Атрымліваецца, што злачыннасць перадаецца ў спадчыну? Галоўны псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Алег Ляскоўскі сцвярджае, што яна не мае псіхалагічных каранёў. Напрыклад, сярод больш чым 17 тысячаў псіхічна хворых непаўналетніх, якія знаходзяцца на медыцынскім уліку, паводзіны толькі 37% выклікаюць трывогу. Хутчэй за ўсё вытокі падлеткавага крыміналу трэба шукаць у адсутнасці належнай увагі дарослых да сучасных хлопчыкаў і дзяўчынак. Як сведчыць статыстыка, каля 90% правапарушэнняў адбываецца ў пазашкольны час.

Галоўны накірунак барацьбы са злачыннасцю, – упэўнены старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Пазняк, – гэта выхаваўчая работа. Замежная практыка пацвярджае, што там, дзе дзяржава ўдзяляе ёй дастатковую ўвагу, узровень падлеткавай злачыннасці не дасягае вялікіх памераў. Яскравы прыклад – Германія. Тут на прафілактыку правапарушэнняў сярод моладзі выдаткоўваюцца значныя бюджэтныя сродкі. Пры кожнай раённай адміністрацыі дзейнічаюць ад 30 да 50 супрацоўнікаў, якія вядуць выхаваўчую работу. Такім чынам, прафілактыка правапарушэнняў – гэта не проста пытанне абароны грамадства. Яе мэта – дапамагчы дзецям пераадолець свае няправільныя дзеянні, раскрыць свой патэнцыял.

***С. Ю.***

## Аўтааматары павінны страхавацца

Чарговыя прэзідэнцкія дэкрэт і ўказ, падпісаныя кіраўніком дзяржавы напрыканцы лютага, патрабуюць абавязковага страхавання аўтатранспартных сродкаў.

Згодна з гэтымі дакументамі, да першага кастрычніка гэтага года ўсе ўладальнікі аўтамабіляў і матацыклаў абавязкова павінны заключыць дамову аб страхаванні грамадзянскай адказнасці за пашкоджанне жыцця, здароўя і маёмасці фізічных і юрыдычных асобаў у выніку дарожна-транспартных здарэнняў.

Эксплуатацыя незастрахаваных сродкаў караецца штрафам у памеры 5 і 15 мінімальных заробкаў для юрыдычных і фізічных асобаў адпаведна, а ў выніку аварыі — 10 і 25.

## Нацыя співаецца

Айчынныя медыкі сцвярджаюць, што насельніцтва нашай краіны паступова співаецца. Так, напрыклад, толькі ў Мінскім гарадскім наркалагічным дыспансэры знаходзіцца на спецыяльным уліку больш за 32 тысячы хранічных алкаголікаў. Але гэта толькі тыя, што зарэгістраваліся афіцыйна. На самой справе спецыялісты лічаць, што іх значна болей – як мінімум у пяць разоў.

Статыстыка сведчыць, што сёння ў беларускай сталіцы жыве 1 млн 728 тысяч чалавек. Такім чынам атрымліваецца, што кожны адзінаццаты мінчанін – алкаголік. Жудасна!

## За ацяпленне давядзецца плаціць больш

Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі вырашыла спаганяць аплату за ацяпленне, зыходзячы з агульнага памеру плошчы кватэры. Такім чынам камунальшчыкі знайшлі спосаб "узняць" кватплату без павелічэння тарыфаў.

Рашэнне пачынае дзейнічаць са студзеня гэтага года.

## Беражыце мужчын!

На жаль, гэта зусім не жартоўны лозунг. Апошнім часам на Беларусі сапраўды назіраецца тэндэнцыя зніжэння працягласці жыцця. Сярэдні ўзрост мужчын складае прыблізна 64 гады. Пры гэтым жанчыны жывуць на 11 год болей.

## Чарнобыльскі гром ужо грымнуў...

Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС пацярпела больш за два мільёны жыхароў Беларусі. Але наступствы гэтай сапраўднай катастрофы стагоддзя на гэтым не скончыліся. Сёння медыкі адзначаюць значны рост колькасці выпадкаў захворвання на рак шчытападобнай залозы. Калі ў перыяд з 1976 па 1986 год у нашай краіне было зарэгістравана ўсяго сем такіх выпадкаў, то ў апошнім дзесяцігоддзі іх было ўжо каля 600.

## "Зязюльчыны дзеткі"

У мінулым годзе ў нашай краіне без бацькоў засталіся каля 5800 маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак. На сёння колькасць "зязюльчыных дзетак" на Беларусі – прыкладна 25 тысяч. Гэта больш, чым у пасляваенны час.

## А ці не замала?..

У мінулым годзе ўсе выдавецтвы нашай краіны выпусцілі ў свет 6073 назвы кніжнай прадукцыі. З іх на роднай мове – усяго 806. Пры агульным тыражы больш за 60 мільёнаў экземпляраў на беларускія выданні прыпадае толькі каля сямі мільёнаў.

## Новыя і старыя музеі і помнікі

Верагодна ў гэтым годзе ў Мінску пачнецца будаўніцтва музея сучаснага мастацтва Беларусі. Мяркуецца, што дзеля гэтага будзе праведзена рэканструкцыя сталічнага кінатэатра "Беларусь". Ва ўсялякім выпадку, Мінгарвыканкам рыхтуе рашэнне аб прадаўжэнні праектных работ. І калі не будзе цяжкасцяў з фінансаваннем, то ў 2003 годзе беларуская сталіца атрымае чарговы музей. А ўжо гэтым летам каля гатэля "Беларусь" з'явіцца помнік расійскаму паэту Аляксандру Пушкіну — падарунак маскоўскага мэра Юрыя Лужкова.

Акрамя таго, ў гэтым годзе працягнуцца рэстаўрацыйныя работы ў Мірскім замку і Брэсцкай крэпасці. Пачнецца работа па аднаўленні Нясвіжскага замка і будаўніцтва новага памяшкання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Мяркуецца, што нарэшце будуць завершаны праектныя работы і знойдзена месца для помніка Францыску Скарыне ў Мінску.

Магчыма, у хуткім часе ў сталіцы з'явяцца таксама помнікі Адаму Міцкевічу, Тарасу Шаўчэнку і габрэям, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны.

## Першая стацыянарная выстава твораў Шагала

Шэсць гадоў таму ў Віцебску быў створаны мемарыяльны Дом-музей сусветна вядомага мастака Марка Шагала. Сёння ў яго фондах ўжо знаходзіцца больш за 70 арыгінальных графічных твораў.

З 16 лютага тут пачала дзейнічаць першая на Беларусі стацыянарная выстава карцін знакамітага мастака. Цяпер гэтае багацце будзе цешыць вока не толькі абмежаванага кола супрацоўнікаў музея і мастацтвазнаўцаў, але і ўсіх прыхільнікаў творчасці нашага славутага земляка.

***С.Ю.***



*Замак Іллінічаў у Міры XVI ст.*




# Старонка Мінскай архікатэдры ў Інтэрнэце

Яе адрас: **http://cacedu.unibel.by/katedra**

З нядаўняга часу карыстальнікі Інтэрнэту маюць магчымасць наведаць старонку Мінскай архікатэдры. Яна складаецца з наступных раздзелаў: каталіцкі Касцёл на Беларусі, Мінская архікатэдра, расклад набажэнстваў у каталіцкіх святынях Мінска, навіны, каталіцкая прэса, касцёлы Мінска і Беларусі (фотаздымкі), грыгарыянскія спевы, каталог каталіцкіх рэсурсаў у Інтэрнэце.

# Юбілей Легіёну Марыі

12 лютага ў мінскай парафіі св.Яна Хрысціцеля (пробашч а.Ігар Лашук) адзначыў свой юбілей Легіён Марыі «Успамога хрысціянаў». Усяго год існуе тут гэты марыйны рух, але набыткаў ужо шмат. Асноўны накірунак дзейнасці Легіёна – апостальства свецкіх, але, як адзначае а.Ігар, апостальства і міласэрнасць – паняцці непарыўныя. Легіён Марыі налічвае 20 легіянераў – актыўных памочнікаў і апосталаў, якія не толькі распаўсюджваюць малітвы і дапамагаюць людзям прыйсці да веры, але і апякуюцца інвалідамі, хворымі, наведваюць шпіталі, палiклінікі, заўсёды дапамогуць і словам і справай. Асаблівую адказнасць рэалізацыі свайго паклікання легіянеры адчуваюць цяпер, напярэдадні 2000 - гадовага юбілею хрысціянства.

Неўзабаве ў мінскім архікатэдральным касцёле адбудзецца штогадовае свята Легіёна Марыі (acies), на якім усе легіёны Мінскай Курыі сустрэнуцца, каб ўрачыста аднавіць «абяцанне легіянера» – г.зн. абяцанне быць верным легіянерам Легіёну Маці Божай, галоўная зброя якіх – малітвы і справы міласэрнасці. Поспехаў вам і плёну ў вашым высакародным служэнні!

***Л.П.***

## ЯШЧЭ АДЗІН ДОКТАР БАГАСЛОЎЯ

Нядаўна грамадзянін Беларусі ксёндз Уладыслаў Блін, пробашч Магілёўскай катэдры і дзекан Магілёўскага дэканату, атрымаў вышэйшае навуковае званне – *доктар багаслоўя*. Такім чынам, колькасць каталіцкіх святароў, якія маюць навуковае званне *доктара багаслоўя*, павялічылася: іх стала 5 (2 – грамадзяне Беларусі, 3 – грамадзяне Польшчы).

Адметна, што званне *ліцэнцыятаў* – маюць 4 святары (2 – з Беларусі і 2 – з Польшчы).

Але найбольшая колькасць *святароў-магістраў* – толькі ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі іх 44 (не ўлічваючы тых, што працуюць у Гродзенскай дыяцэзіі). Такім чынам, вернікі могуць атрымаць у сваіх адукаваных святароў адказы не толькі на асабістыя пытанні, але і атрымаць кансультацыі на пытаннях тэалогіі.




**У новым нумары часопіса “Ave Maria”:**

- Пасланне Папы Яна Паўла II на XXXII Сусветны Дзень міру
- Каб магчы сказаць: Ойча... – да Вялікага Юбілею 2000 Года
- Кс.Э.Станек “З клопатам пра сумленне” – Развагі над Дэкалогам
- Пра Святую Імшу
- Ад супольнасці да секты
- а таксама сведчанні, малітвы, Крыжовы шлях

## Паважаныя чытачы!

Звяртаемся да вас з вялікай просьбай. У вашай парафіі, горадзе, мястэчку, вёсцы адбываюцца самыя розныя падзеі. Напішыце нам пра ваша жыццё, падзяліцеся сваімі думкамі, праблемамі, задавайце пытанні, якія вас хвалююць. Давайце разам рабіць “*Каталіцкія навіны*” больш цікавымі і разнастайнымі. Таксама заклікаем вас распаўсюджваць “*Каталіцкія навіны*”, часопісы “*Ave Maria*” і “*Наша вера*” сярод сваіх знаёмых, суседзяў, аднавяскоўцаў. Звяртайцеся з гэтым да свайго пробашча або непасрэдна ў рэдакцыю. Мы заўсёды рады вашым лістам.

***Рэдакцыя “Каталіцкіх навінаў”***

**Каталіцкія навіны.** № 3(41)/1999. Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэг. № 686. **Адрас рэдакцыі:** пл.Свабоды 9, 220030 Мінск. **Факс** (017) 226-90-92. **E-mail:** maria@maria.belpak.minsk.by.
Падпісана да друку 02.02.99. Фармат 62 1/8. Наклад 3500 экз. Зак.36. Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836. Вул.Чкалава,14
Акрамя матэрыялаў уласных карэспандэнтаў у нумары выкарыстаны паведамленні замежных выданняў і агенцтва KAI.